Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 3000 м. п.

# ВОЛЬНЫ СЬЦЯГ



Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць тры разы у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 36.000 м. п.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 7000 мк., сярод тэксту 6000 м. і на 4 стр. 5000 м., за радок пэтыту у 1 шпальт.

№ 1. Вільня, Нядзеля, 26-га жніўня 1923 г. Год I.

## Прызнаньне Пілсудскага.

Хочацца забыцца, адмахнуцца ад тае цяжкое зморы, што паўстае ў вачох кожнага беларуса пры ўспаміне іменьня Язэпа Пілсудскага. Але ён, Пілсудскі, ўсьцяж стараецца напамінаць аб сабе тым, каму, меўшы ўладу, зрабіў найбольш зла, каго найцяжэй пакрыўдзіў: беларусам і украінцам.

Пасьля падарожы ў Львоў, Пілсудскі прыехаў у Вільню: чытаць публічныя лекцыі. А ў гэтых лекцыях, распаліваючы дзікі, зоолёгічны нацыяналізм у душах польскага грамадзянства, вядзе самы паскудны від палітычнае пропаганды: пропаганду ідэі **мілітарызму**. І з бязпрыкладным цынізмам увасхваляе грубую сілу, ўвасхваляе масавыя забойствы людзей, будзіць самыя благія інстынкты чалавека...

Пілсудскі мае „паклоньнікаў сярод так званых польскіх „паступоўцаў“, якія, ня менш за эндэкаў, захоплены нацыяналістычным шалам. І ажно дзіва: за што яго, роднага — ў духу—брата Рамана Дмоўскага, так непавідзіць эндэцыя?!

Надовечы віленскія „паклоньнікі“ віталі Пілсудскага банкетам. За чаркай, ведама, разьвязаваюцца языкі. І разьвязаўся язык Пілсудскага. Калі нехта, забыўшыся, што ў доме вісельніка ня прынята гаварыць аб вяроўцы, спытаўся Пілсудскага, чаму ён, як быў начальнікам дзяржавы, так блага адносіўся да беларусаў,—ён першы раз з поўнай шчырасьцяй адказаў:

„Калі справа йдзе аб такую вялікую рэч, як дзяржава, дык прыходзіцца прыносіць ёй у ахвяру—**драбніцы**!“

„Драбніцай“ у вустах Пілсудскага акаваліся ня толькі беларусы, але і украінцы, і жыды, і польскія немцы — роўна **траціна** насяленьня Польскае Рэспублікі. І гэту „драбніцу“ ён з поўнай сьвядомасьцяй аддаў на пажраньне польскаму нацыяналізму....

Але памыляецца Пілсудскі, што толькі гэная „драбніца“ пацярпела ад гэтага: удар па „інародцах“ быў ударам і па **самай-жа Польшчы**.

У Львове Пілсудскі бэсьціў сваё-ж грамадзянства, што яно ўсё пранікнута **ілжой**. Але як-жа магло стацца іначай, калі той, хто быў першым сярод гэтага грамадзянства, з такім цынізмам **ашуківаў** і беларусаў, і украінцаў, і жыдоў, гаворачы ім салодкія словы і адначасна—на дзеле—прыносячы іх у ахвяру радзімай эндэцыі?

Як магло грамадзянства пранікнуцца **пачуцьцём права**, калі ў адносінах да трэцяе часьці жыхароў гаспадарства Пілсудскі дапускаў бяскарна самыя бязглуздыя нарушэньні права, таптаньне аснаўных законаў Рэчыпаспалітай?!

І як могуць „паклоньнікі“ Пілсудскага наракаць на ўсё тое зло, якое цяпер паноўшыцца ў Польшчы і падточавае польскі дзяржаўны арганізм, калі пачатак яму дадзены іх „кумірам“?! Бо той, хто даў ціхі загад: **для „інародцаў“ няма закону**,—гэтым самым забіў закон наагул... І тое, што робіцца цяпер у польскім гаспадарстве і выклікае абурэньне „паступоўцаў“ і ўсяе польскае „левіцы“,—гэта толькі плён пасеву, зробленага Пілсудскім пры закладзінах дзяржавы.

Мы з поўным пераканаьнем можам сказаць, што іменна атмосфэра пакланеньня грубай фізычнай сіле, атмосфэра прынашэньня ў ахвяру польскаму нацыянальнаму ідэалу такіх „драбніц“, як **правы траціны насяленьня**, іменна гэта атмосфэра ўзгадавала ня толькі бяспрыкладнае перасьледаваньне „інародцаў“, але ўзгадавала і таго, хто зьяўляецца ўасабленьнем нацыяналістычнага шалу: ўзгадавала забойцу, ад рукі якога паў найсьвятлейшы нашэльнік лепшае часткі польскае нацыянальнае душы, першы прэзыдэнт Польскай Рэспублікі, Нарутовіч.

Няхай-жа Язэп Пілсудскі зразумее ўрэшце, да чаго ён давёў сваё грамадзянства. Няхай зразумее і не напамінае так няпрыстойна аб сабе тым, каго ён найцяжэй пакрыўдзіў.

Хай зыйдзе з памяці крывавая змора, што **„агнём і мечам“** прайшла праз Беларускую зямлю!...

**К. Фалькевіч.**

## Значэньне нацыянальнага руху сярод беларусаў-рабочых у Амэрыцы.

Аўтору гэтых радкоў ужо ў 1921 годзе давялося пісаць аб вялізным значэньні прабуджэньня нацыянальнай сьвядомасьці сярод эмігрантаў беларусаў у Амэрыцы.

У той час далятаі да нас толькі першыя ластаўкі беларускага нацыянальнага руху сярод рабочых Нью-Йорку і яго ваколіцаў. Сама сабою прабудзілася там нацыянальная сьвядомасьць сьрод паасобных эмігрантаў-беларусаў. Адсюль яны маглі меець толькі тыя абмяжованыя інформацыі аб нашым руху, якія даходзілі разам з тутэйшымі газэтамі туды за акіян.

Ужо два гады назад было для ўсіх нас на Бацькаўшчыне ясна, што раз прабуджаны беларускі рух у Амэрыцы пайдзе расьці і можа быць вялікім падтрыманьнем дзеля культурнае працы тутака.

Сягоньня гэта ўсё ўжо стала фактам і стала гэтак хутка толькі таму, што мы разумелі, тады яўную неабходнасьць выдзяленьня і камандзіраваньня ў вялікую Заатлянтыцкую Рэспубліку, хоць самае малое часьці тутэйшых нацыянальна-інтэлігэнцкіх беларускіх сіл.

Лёс пазволіў заехаць у Амэрыку аднаму з маладых, поўных энэргіі беларускіх змагароў, які вядомы цяпер у Амэрыцы пад прозьвішчам Антона Змагара.

Ён папраўдзе змагар, бо змагаецца з усіх сіл сваіх сярод закіненых лёсам за акіян нашых братоў, арганізуючы іх, як сыноў аднае зямлі й аднаго Народу Беларускага.

Аб'ядначыя ў Амэрыцы раней паводлуг рэлігійнага прызнаку ў розныя „праваслаўныя“ (расейскія), ці ў „каталіцкія“ (польскія) арганізацыі, аб'яднаныя русіфікатарскім ці палянізатарскім духавенствам—беларусы-рабочыя, значна пачынаюць выліваццa з гэтых чужых ім арганізацыяў, горнучыся ў свае, пакуль што, як здалёк здаецца, нацыянальныя беларускія гурткі.

Вочы працоўных сыноў Беларусі паясьнелі, польска-расейская чмута расьсяваецца, як дым, як туман пры зьяўленьні сонца.

Яшчэ пара-другая нашых інтэлігэнтных працаўнікоў, якіх, нажаль, ня вельмі лёгка туды паслаць, зрабіла-б у Амэрыцы за кароткі час напэўна тое, што прабуджаная нацыянальная сьвядомасьць мігам зрабілася-б поўнаю, ахапіла-б усю вялізную грамаду сыноў Нашае Зямлі і зрабіла-б іх насіцелямі нашае нацыянальнае культ. ў розна-племяннай зямлі амэрыканскай.

Хоць які-небудзь тыднёвічак на нашай роднай мове, блізкі штодзеннаму жыцьцю эміграцкае беларускае масы, блізкі яе пролетарскай істоце сеяў-бы поўныя зярняты сьвядомасьці з буйнейшай руняй за тую, якая ўсходзіць ад адных толькі масавых мітынгаў ды пікнікоў.

А што зрабіла-б тая ці іншая беларуская п'еска, згуляная самімі эмігрантамі аматарамі на якой-нібуць вечарыне хаця-бы пад кіраўніцтвам таго, ці іншага з тутэйшых нашых актораў, цяпер, дзякуючы акалічнасьцям, замоўкшых на нейкі час тутака.

Элемэнтарнейшая школка зрабіла-б граматным пабеларуску маладое пакаленьне эмігрантаў, прыйшоўшае на сьвет у сваёй новай бацькаўшчыне.

Праца ў Амэрыцы вялізная і там патрэбна шмат гатовых вясьці яе змагароў.

З часам ведама, што жывая душа беларускіх працоўных масаў вытварыць сама сабою сваіх нацыянальных змагароў і пэўна, што культурная падмога адсюль там хіба што толькі прысьпяшыла-б гэтае вытварэньне.

Як вялікай трэба лічыць ахвярнасьць рабочага-беларуса, які з цяжкае мускульнае працы свае выдзяляе,—цяпер у яшчэ ня ўсёй чыста грамадзе сваёй,—магчымую долю, каб памагчы гэтай Заходняй часьці свае Бацькаўшчыны, што дасюль зносіць незаслужаную нядолю, накіненую тым, хто амаль яшчэ ўчора сам быў нявольнікам, пераносіўшым расейска-нямецка-аўстрыяцкі гнёт!

Значэньне працягненай праз вялізарны акіян рукі помачы, (а помач гэта, пэўна што, будзе расьці), не паддаецца ніякай меры.

Людзі нашых нявольных вёсак, рызыкнуўшыя на вялікую падарож, дзеля шуканьня лепшага асабістага лёсу, ня страчаны для свайго народу!

Бязьмерна цяжкая праца на чужыне не забіла ў іх свайго прыроднага пачуцьця, а вольны палітычны лад амэрыканскі, ў параўнаньні з былым і цяперашнім ладам тутака, навучыў іх разумець, што такое сама палітычная воля, пашана і права чалавечае асобы.

Кожнаму ведама вялікае значэньне пры будаваньні Літоўскае Рэспублікі таго літоўскага элемэнту, які вяртаючася ў сваю вольную Бацькаўшчыну, прывозіў у лік яе агульнага дзяржаўнага скарбу свой працоўны заробак і сваю работніцкую кваліфікацыю.

Лепшыя часы для нашай Бацькаўшчыны вернуць ёй і яе ўцёкшых ад гора сыноў, загартаваных арганізованаю сыстэматычнаю працаю, авеяных духам свабоды і дужых эканамічна.

А што вольнай Бацькаўшчына будзе, аб гэтым гадаць ня трэба. За гэта гавораць гістарычныя прыклады, аб гэтым сьведчыць бясьсьмертны дух волі, прабуджаны ад рабскае летаргіі ўсюды там, дзе стукаціць беларускае сэрца, дзе жыве беларуская душа, дзе не ўмярла беларуская мова, хоць часам можа зрабілася калекаю.

Не дарма-ж вялікі пісьняр працоўнага народу беларускага у часе найчарнейшае чужацкае рэакцыі, гуляўшай па Нашай Зямельцы, адважна і гучна сказаў:

„Не пагаснуць зоркі ў небе,
Покі неба будзе—
Не загіне край забраны,
Покі жывы людзі“...

**К. М.**

## За ўрадаў Хьены і Пяста.

Калі ў часе сусьветнай вайны ў розных краёх уводзіліся агранічэньні ў спажываньні тых ці іншых прадуктаў першай патрэбы; гэта было зразумела, бо зьмяншэньне прадукцы гэтых прадметаў было нармальным вынікам мілітарызацыі прамысловасьці, скірованай да найбольшага вырабу прылад нішчэньня і руйнаваньня. Праўда і тады гэтыя агранічэньні не датыкаліся багатых людзей, а як і ўсе іншыя цяжары вайны лажыліся на шырокія слаі бяднейшых спажыўцоў, але ўсё-ж такі пацехай магло служыць, што гэта зьяўляецца часовым вынікам „агульна-народнай“ бяды і закончыцца з яе канцом.

Проста ўжо незразумелым зьяўляецца тое, што робіцца ў сучаснай Польшчы. Штодня мы чытаем у газэтах і офіцыяльных справаздачах, падмацованых цыфрамі, што вытворчасьць польскай прамысловасьці і земляробства павялічваецца, дасягаючы нормы перадваенных часоў, а ў некаторых галінах нават правы-

шаючых гэтыя нормы, і разам з тым бачым поўны недахват некаторых прадметаў першай патрэбы на ўнутраных рынках. У некаторых гарадох адчуваецца недахват хлеба. Варшава і другія вялікія цэнтры пазбаўлены мяса, камісар па барацьбе з дарагоўляй пан Байда ўводзіць агранічэньне спажываньня мясных патраваў у рэстаранах, у Лодзі работнікі прымушаны купляць сабачыну за адсутнасьцю іншых гатункаў мяса, а каб дабыць фунт на месяц цукру, дык трэба цэлыя дні прастаяць у хвастох і г. д. Ня гледзячы на тое, што курс маркі ў працягу апошняга тыдня ўстабілізаваўся, цэны на ўсе прадукты і тавары растуць не па дням, а па гадзінам.

Чым-жа вытлумачыць гэтыя ненармальныя зьявішчы? Разгадка дужа простая. Польскія паны і капіталісты зусім ня лічацца з патрэбамі насяленьня і нават дзяржавы, а толькі з інтарэсамі сваей уласнай кішані. Якраз тыя прадукты, якіх адчуваецца такі востры недастатак на ўнутраным рынку, вывозяцца ў вялізарным ліку за граніцу. Паном некарысна прадаваць свае тавары на польскія маркі, вартасьць якіх так хутка абясцэніваецца і шмат выгадней сплаўляць іх за граніцу за паўнацэнную заграначную валюту, якою ўдабавак можна і ў краі спэкуляваць.

Вось чаму ў той час, калі польскія цукраварнікі штомесяц вывозяць тысячы вагонаў цукру заграніцу, ў самой Польшчы так трудна купіць яго, вось чаму калі цэлыя транспарты быдла і свіней ідуць у Чэхію, у самой Польшчы агранічаваецца прадажа мяса і пераходзяць на сабачыну і г. д. Хьена-пьястоўскі ўрад, які зьяўляецца выразьнікам інтарэсаў абшарнікаў, прамыслоўцаў, гандляроў, банкіраў і паўпанкаў-спэкулянтаў ня мае ніякай ахвоты змагацца з гэтым і хоць у часе выбараў Хьена абяцала, дапяўшы ўлады, чарадзейскім словам спыніць дарагоўлю, так што фунт хлеба будзе каштаваць 30 фэнігаў, мы бачым што якраз наадварот за ўрадаў Хьены шал дарагоўлі і спэкуляцыі якраз дайшоў да нябывалых разьмераў, а хвасты каля спажывецкіх магазынаў і розныя агранічэньні ў патрабленьні тых ці іншых прадуктаў напамінаюць часы нямецкай окупацыі.

## Аб уцекачох беларусах.

У „Новым Жыцьці“ (№ 6) была надрукована стацьця аб уцекачох, у якой былі цікаўныя статыстычныя даныя, хаця абапёртыя на офіцыяльных цыфрах, датычна вярнуўшыхся з Расеі на бацькаўшчыну ўцекачоў у працягу 3-х гадоў ад 1918 да 1921. Там было сказана, што лік вярнуўшыхся ўцекачоў—беларусаў у працягу гэтых трох гадоў быў 511,000, што пры агульных ліку ўцекачоў (3.642.000) ёсьць 14 проц.

Паводле апошніх даных, датычных 1922 г., вярнулася ўцекачоў з Расеі 281.000 душ, у гэтых ліку 160.000 беларусаў.

Колькі ўцекачоў ды якой нацыянальнасьці вярнулася ў 1922 г., а таксама за ўвесь час ад 1918 г. паказваюць гэтакія цыфры:

| Нацыянальнасьці ўцекачоў. | 1918—1922 г. | 1922 г. | За увесь час |
|---|---|---|---|
| | у тысячах. | | |
| Палякі . . . . . . | 1985 | 68 | 2053 |
| Беларусы . . . . . | 511 | 160 | 671 |
| Рускія . . . . . . | 584 | 3 | 587 |
| Украінцы . . . . . | 287 | 23 | 310 |
| Жыды . . . . . . . | 25 | 15 | 40 |
| Інш. нац. . . . . . | 250 | 12 | 262 |
| Агулам . . | 3642 | 281 | 3923 |

У 1922 г. уцекачоў менш, чымсь у кожны з папярэдніх гадоў. Гэта тлумачыцца тым, што галоўная маса ўцекачоў да гэтага часу ўжо вярнулася ($3^1/_2$ мільёна з агульнага ліку 5—7 мільёнаў). Магчыма, што тут мае значэньне і аблягчэньне жыцьця ў Расеі (НЭП), якое ўтрымала некаторыя групы ўцекачоў.

У апошнім 1922 г. паміж уцекачамі значную лічбу становяць беларусы. Усяго ў 1918—1922 г. вярнулася на бацькаўшчыну 671.000 беларусаў з агульнага ліку вярнуўшыхся 3.923.000, г. зн. каля 17 проц.; бязсумлеўку, што некаторая частка беларусаў запісалася ў групу „рускіх“, дзякуючы таму, што польскія вураднікі (напр. у Баранавічах) упарта заяўляюць, што *беларусаў няма*, і навет зусім сьвядомых беларусаў запісвалі „рускімі“. Спаміж 587 тысячаў *рускіх* пэўна палова беларусы. Гэткім чынам можна рахаваць, што ўцекачоў беларусаў ужо вярнулася каля мільёна душ, што раўняецца двом трацінам таго ліку беларусаў, якія выехалі ў Расею з губэрняў, каторыя цяпер увайшлі ў Польскую Рэчпаспалітую.

**С. Кл.**

## Яшчэ аб беларускім тэатры.

У аднаднёўцы „Падняты Сьцяг“ паявілася стацьця п. з. „Беларускі Тэатр“, у якой аўтар яе (П. Л.) між інш. кажа аб труднасьцях, якія спатыкае беларускі тэатр на правінцыі з боку мясцовай улады.

Я, як адзін з тых, хто праўду гэных слоў меў магчымасьць сам праверыць у сваёй тэатральнай рабоце, хачу падзяліцца з чытачамі некаторымі дакумэнтамі і сваімі ўспамінамі, каторыя, ня гледзячы на трагізм, які перажывае беспатольны беларускі народ, не пазбаўлены пэўнай дозы смяхотнасьці.

У 1920 г. у Менску палітычным інспэктарам пры „Wydziale Narodowościowo-Wyznaniowym“ быў п. Фастовіч-Загорскі, а тэатральным цэнзарам яго жонка, польская паэтэса Савітры (псэўд.). Мне, як кіраўніку тэатру, прыходзілася часта мець справу да гэтых асоб. Кожная п‘еса праходзіла праз цэнзуру пані інспэктаровай. Рэзультат яе дзеяльнасьці гэтакі: забаронена граць „Моднага шляхцюка“ Каганца, „Раскіданае гняздо“ і „Паўлінку“ Купалы, з маіх п‘ес „Калісь“ і „Бутрыма Няміру“. Калі я зьдзіўлены спытаўся, чаму нельга ставіць на сцэне „Паўлінку“, пані цэнзорша запрапанавала мне зьвярнуцца да Купалы, каб ён перарабіў сваю п‘есу, выкідаючы з яе соцыяльны элемэнт (?!)

Прапазыцыю п. Загорскай я, ведама, паўтарыў Купале і мы, дзякуючы ёй, перажылі мінюты шчырай вясёласьці.

Калі я зьвярнуўся да пана Рачкевіча, начальніка Менскага Округу, з просьбай даць мне дазвол паехаць з беларускай трупай на правінцыю, я адтрымаў гэтакую паперу:

Zarząd Ziem Wschod.
Okręg Miński.
Wydział
Narodowośc.-Wyznan.
dn. 2. IV. 1920 r.
№ 1100/V.

Do Pana Fr. Alechnowicza
dyr. teatru Białoruskiego.

Na mocy decyzji Pana Naczelnika Okręgu Mińskiego z dnia 30./III. 1920 r. komunikuję Panu, że pozwolenie na urządzenie przedstawień w miastach i miasteczkach Okręgu Mińskiego udzielone być nie może.

(—) Fastowicz-Zahorski
Inspektor Polityczny

Трэба ад‘значыць, што ў гэты самы час расейская трупа разьяжджала па беларускай правінцыі бяз ніякіх перашкод.

Але гэта было ўжо даўно. Тады яшчэ грымелі гарматы над Бярэзінай і паном Рачкевічам і Загорскім, „kacykom“ у Меншчыне можна было рабіць, што хочуць. Але вернемся да пазьнейшых часаў.

Увосені 1922 г. мне прыйшлося езьдзіць з беларускім тэатрам па нашай правінцыі. Не прадбачачы, якія труднасьці мяне чакаюць, я ўзяўшы з сабой цэнзурованыя ў Вільні ў Старостве Гродзкім п‘есы, паехаў старацца дазволу на мясцох. Праўда, дазволы ўсё-такі адтрымоўваў, але заўсёды прыходзілася патраціць шмат часу і прасядзець у мястэчку лішніх пару дзён. Першы адказ быў: „Прыдзеце праз тыдзень“. Калі я тлумачыў, што не магу чакаць гэтак доўга, бо праз гэты тыдзень я павінен граць у іншых мясцох і вярнуцца сюды ўжо з дазволам у руках, бо інакш тэатру пагражае вялізны дарма патрачаны расход, калі я ўрэшце меў ужо згоду самога пана старасты,—аказвалася, што... і стужка папсавалася ў машынцы і няма на чым надрукаваць маю паперку аб дазволе, або— „godziny urzędowania się skończyły“, а адзін раз пані рэфэрэнтка са злосьцю сказала:

— Czemu nigdy nie przyjedzie teatr polski?...

Вось дзе сабака зарыты!..

У іншым Старастве пан стараста спытаўся:

— Цэнзурованую п‘есу маеце?

Я шпарка выцягнуў з кішані п‘есу, дзе на першай старонцы была ўрадовая пячатка і надпіс: „Wolno wystawiać na pokaz publiczny“. Пан стараста доўга глядзеў на кніжку і думаў думку. Урэшце сказаў:

— Niech mi pan zostawi ten egzemplarz.

— Не магу—адказаў я—бо гэта адзіны мой цэнзурованы экзэмпляр.

— Ale ja muszę przedtym przeczytać sztukę.

— Есьць-жа цэнзура віленскага старaства.

— A tutaj starostwo N**.

— А хутка пан стараста прачытае?

— Nie wiem. Gdy będę miał czas.

Гэта значыць: ніколі!

Адзін раз я хацеў паставіць спэктакль ў Маладзечне і каб ужо ня было ніякіх перашкод з прычыны кароткага тэрміну, я паслаў просьбу праз пошту на 5 ці 6 тыдняў перад днём спэктаклю. Просьба была напісана даслоўна гэтак сама, як заўсёды пісалася ў гэтых справах, былі наклеены штэмпэльныя маркі. Адказу прышлося чакаць доўга і толькі ў той дзень, на які быў назначаны спэктакль, прыйшла па пошце гэтакая папера:

Starostwo
powjatu Wilejskiego
L: 6607/11/ Ad.

Wilejka, dn. 5. I. 1923 r.
Do
P. Franciszka Alachnowicza
w Wilnie.

Niniejszem komunikuję, iż podanie Pana w sprawie udzielenia pozwolenia na urządzenie pszedstawienia w Molodecznie, z braku przewidzianych rozp. podstawowych formalności, zostało załatwione odmownie w myśl okólnika № 19 z dnia 18. X. 22 r.

(—подпіс)
Starosta

Я хацеў даведацца, якія былі ня зроблены фармальнасьці, чаго не хапала ў маёй просьбе, пісаў нават у Старaства, але так і не даведаўся,—а спэктакль не адбыўся, а затраты былі зроблены.

Нядаўна я быў на спэктаклі ў Радашкавічах. Калі мне паказалі пераклад на польскую мову цэлай трохактнай п‘есы, без чаго нельга было адтрымаць дазволу, я зжахнуўся з дзіву. Сколькі патрачана беспатрэбна часу і энэргіі дзеля сьмяшнога капрызу павятовага „kacyka“!

Вось гэта колькі дробных ілюстрацыяў да стацьці „П. Л.“. Гэта факты з маей асабістай практыкі. А якія спатыкаюць труднасьці мясцовыя гурткі моладзі, каторая хацела-б часам наладзіць у сваім мястэчку спэктакль,—гэтага не запісаць хіба й на валовай скуры. Мне ведамы адзін факт, калі ў мястэчку N група моладзі, не адтрымаўшы дазволу на спэктакль, рашылася пайсьці ў лес і там за мястэчкам пад голым небам гралі прыгатаваную п‘есу. І гэта была ўжо ня простая гульня, а нейкая містэрыя. Нявінная забава, калі яе забараняюць і трэба з ёю ўцякаць ад вачэй улады, у лес, набірае нейкай сумнай павагі і становіцца сьвятадзеяньнем.

**Ф. Аляхновіч.**

## Палітычныя падзеі.

### ПОЛЬШЧА.

„Robotnik“ паведамляе, што ў Радаме адчуваецца на рынку востры недахват прадуктаў, а перад усім хлеба. Сытуацыя дужа сур‘ёзная. Насяленьне літаральна атакуе склепы, склады і пякарні. Цікава, што на млыне Тылінскага знаходзяцца вялізарныя запасы жыта, якога ён ня хоча малоць і прадаваць, каб яшчэ больш падняць цэны.

Цана на розныя прадукты ўсьцяж расьце. Зноў павялічана цана на цукер і колёніяльныя тавары. З прычыны ўзросту дарагоўлі адбыліся забурэньні ў Пазнані. Паліцыя арыштавала шмат асобаў.

У шмат якіх паветах распачаліся забастоўкі сельска-гаспадарчых работнікаў, выкліканыя невыпаўненьнем праз абшарнікаў работніцкіх жаданьняў. Адміністратыўныя ўлады пагражаюць рэпрэсыямі. Галоўны Ўрад Саюзу сельска-гасп. работнікаў заявіў, што ў выпадку рэпрэсыяў усімі спосабамі стане ў абароне забаставаўшых работнікаў.

**І. Г.**

## Дзесяць запаведзяў.

(Гл. „Наш Сьцяг“ № 23).

*Не прызывай іменьня Пана Бога твайго напрасна.*

Згодна з паверыямі ўсіх першабытных народаў, хто знае імя якога-небудзь духа і ўмее паклікаць яго пэўным спосабам, той можа гэтаму духу загадваць. Дзеля гэтага ўсе чараўнікі, жрацы і заклінацелі трымаюць імёны духоў у поўным сакрэце і самі ўжываюць іх толькі ў запраўднай патрэбе.

Імя жыдоўскага бога таксама трымалася ў сакрэце; сьвяшчэньнікі нават цьвярдзілі, што гэтага іменьня ніхто ня можа выгаварыць, а хто яго ведаў-бы і мог выгаварыць, дык меў-бы амаль што боскую моц.

Відавочна, што з гэтай верай ня маем патрэбы разважаць. Гэта такія ўстарэўшыя забабоны, што іх не бароняць у поўнай меры нават папы, ксяндзы і рабіны; нават яны не асьмеляцца сёньня напісаць і бараніць лёгічна цьверджаньня, што божае імя мае чарадзейскую сілу. Казкі аб гэтым расказваюцца толькі на казаньнях у найцямнейшых парафіях і ў жыцёпісах сьвятых, прызначаных для найменш сьвядомых народных масаў.

Цікава аднак, як гэтая запаведзь выкладаецца ў эвангеліі ад Мацея. Вось што чытаем там:

> Вы чулі, што сказана старажытным: ня будзеш фальшыва прысягаць, але аддасі Пану тваю прысягу, але я вам кажу, каб зусім не прысягалі, ані на неба... ані на зямлю... ані на Ерусалім... ані на галаву тваю, але мова ваша хай будзе: так, так; не, не, а што болей ад гэтага ад злога ёсьць (Мац. V.—33—37).

Гэта зусім выразная забарона даваць якія-небудзь прысягі і паўторана таксама ў пісьме сьв. Якуба (V—12). Значыць, што чалавек ніколі не павінен прысягаць, не павінен даказваць праўдзівасьць сваіх словаў ніякімі сьвятымі імёнамі, толькі коратка і ясна гаварыць усю праўду і толькі праўду.

Трэба прызнаць, што гэта найпрыгажэйшая эвангельская рада і каб папы, ксяндзы і рабіны так тлумачылі гэтую запаведзь зусім маглі-б мы згадзіцца на гэта цалком. Аднак-жа ведаем, што якраз наадварот, што як жыды, так і хрысьціяне маюць дужа многа прысягаў і закляцьцяў абавязковых. Хрысьціянскія катэхізмы старанна забываюць аб гэтым месцы эвангелія, а хрысьціянскія дзяржавы проста прымушаюць сваіх грамадзян каб прысягалі і закліналіся божымі імёнамі.

Прысягаюць на божае імя маладыя, калі жэняцца, прысягаюць папы, ксяндзы і манахі, прысягае на „Бога Адзінага ў Сьвятой Тройцы“ прэзыдэнт Польскай Рэспублікі, прысягаюць сьведкі ў судзе і прысягаюць прымусова — пад пагрозай самых суровых караў — людзі ўзятыя да войска, хаця-б нават лічылі, што праступна забіваць людзей на вайне.

Як бачым, эвангельская запаведзь, каб ня прысягаць, якраз не выпаўняецца дзяржавай і касьцёлам (ці царквою), якраз тымі арганізацыямі, якія бароняць запаведзяў і Эвангелія.

Калі бліжэй прыгледзімся да соцыяльнага ладу, дык мусім прызнаць, што дзяржава і касьцёл (царква) павінны так паступаць. Бо трэба-ж неяк утрымаць людзей у паслушэнстве, бо іначай зусім немагчыма было-б іх эксплёатаваць. Сьвятое чарадзейскае імя божае тут якраз шмат памагае.

Насамперш ад дзіцячага ўзросту моцна

## НЯМЕЧЧЫНА.

Фінансавая сытуацыя ў Нямеччыне не папраўляецца. Друкарскія машыны выкідаюць штодзень на рынак новыя трыльёны марак, а разам з тым усё больш расьце дарагоўля і усё больш пагаршаецца палажэньне працоўных.

Французы ў Рурскім басэйне занялі шмат новых капальняў. Работнікі ў знак пратэсту аб'явілі забастоўку.

На адбыўшымся мітынгу, скліканым праз профэсыянальныя саюзы, пастаноўлена падтрымаць урад у ягонай тактыцы пасыўнага спраціву.

З тэй прычыны, што немцы не заплацілі Францыі патрэбных сумаў, гэн. Дэгут выдаў загад аб конфіскаце на карысьць саюзьнікаў цяперашніх і будучых запасаў вуглю, коксу і іншага сыр'я

У Дюсэльдорфе сконфіскована 35 мільярдаў, а ў Зэнгэрданц—45 мільярдаў марак.

Улады окупацыйныя арыштавалі рэдактара камуністычнай газэты „Freihejt“ Рудэрта, які 1 траўня сказаў прамову, ў якой крытыкаваў французскія войскі.

## С. С. Р. Р.

„Rosta“ паведамляе, што выканаўчы камітэт „Профінтэрну“ асыгнаваў мільён залатых марак нямецкіх на падтрыманьне работнікаў у Нямеччыне, якія пацярпелі ў часе апошніх забастовак. Адначасна „Профінтэрн“ заклікае ўсе належачыя да яго арганізацыі падтрымаць дапамогай нямецкіх работнікаў.

Французскі сэнатар дэ-Монзье меў нарады з Чычэрыным, Каменевым, Красіным і старшынёю концэсыйнага камітэту Пятаковым. Монзье мае замер пабываць таксама ў камісара асьветы Луначарскага.

Быўшы канцлер Нямецкай рэспублікі д-р Вірт прыбыў у Маскву. Прыезду Вірта прыпісваюць вялікае палітычнае значэньне.

Патрыярх Ціхан выдаў адозву да духавенства, ў якой заяўляе, што царква ня хоча мець нічога супольнага з контр-рэвалюцыяй. Паварот да старога ладу—кажа адозва—выключаны. Праваслаўная царква прызнае і падтрымоўвае савецкую ўладу, бо ўсялякая ўлада паходзіць ад Бога. Царква моліцца за Савецкія Рэспублікі і Савецкі ўрад. Пад канец адозва заклікае духавенства зразумець, як далёка праваслаўная царква вызвалілася ад контр-рэвалюцыйных уплываў.

## ФРАНЦЫЯ.

Французскі ўрад выслаў ангельскаму ўраду ноту, ў якой стараецца апраўдацца перад ангельскімі закідамі адносна французкай палітыкі ў справе нямецкіх сплатаў і міжсаюзных даўгоў. Нота ні ў чым не зьмяняе становішча Францыі ў гэтых справах і ня ўносіць ніякага паляпшэньня ў напружанай сытуацыі міжсаюзнага конфлікту.

## ЮГАСЛАВІЯ.

Радзіч мае замер унясьці да Лігі Нацыяў просьбу аб прызнаньні незалежнасьці Кроацыі. Пасьля мае замер утварыць на эміграцыі ўрад, які, робячы захады аб патрыманьні незалежніцкіх імкненьняў Кроацыі, зьвернецца ў гэтай справе да Нямеччыны, Італіі і Радавых Рэспублік. У нядзелю адбылося сабраньне харвацкай сялянскай партыі, на якім пастаноўлена парваць усялякія адносіны паміж харватамі і сэрбамі. Сабраньне ўпаважніла Радзіча распачаць дыплёматычныя перагаворы, скірованыя да таго, каб забясьпечыць Кроацыі права самой вырашыць свой лёс.

Вынікі выбараў да гмінных самаўрадаў у Югаславіі вядомы ў 1810 гмінах. У 1152 гмінах перамаглі дэмакраты, ў 431—земляўласьнікі, ў 73—мяшчане, ў 13—сэрбкая партыя, ў 1—камуністы, ў 1—лібэралы, ў 46—беспартыйныя, ў 15—радыкальныя дэмакраты і ў 9—рэспубліканцы.

Урад Югаславіі даў згоду на ўзнаўленьне гандлёвых зносінаў з Савецкімі Рэспублікамі нават перад устанаўленьнем офіцыяльных дыплёматычных адносін.

Македонскія паслы да Югаславянскага парлямэнту арганізавалі асобную партыю і пагражаюць ураду злучыцца з партыяй Радзіча, якая, як вядома, дамагаецца незалежнасьці Харвацыі.

## ЧЭХІЯ.

Распачалася гэнэральная забастоўка работнікаў у капальнях. Бастуе 110.000 работнікаў. Міністар працы прыняў прадстаўнікоў цэнтральнага забастовачнага камітэту і выказаў гатоўнасьць узяць на сябе пасрэдніцтва паміж работнікамі і працадаўцамі.

## ГРЭЦЫЯ.

У Грэцыі аб'яўлена гэнэральная забастоўка. Урад стараецца задушыць забастовачны рух, але бяз посьпеху. Магчыма, што ўрад прымушаны будзе падацца ў адстаўку.

## ІРЛЯНДЫЯ.

Правадыр ірляндзкіх рэспубліканцаў, якія паставілі сабе мэтай барацьбу за поўнае вызваленьне Ірляндыі ад Англіі—дэ-Валера арыштованы. Згодна з ірляндзкімі законамі, якія дазваляюць трымаць у вастрозе бяз суда тых, якіх ўрад лічыць небясьпечнымі ці шкоднымі для дзяржавы, дэ-Валера ня будзе аддаены пад суд, але будзе сядзець у вастрозе, пакуль гэта будзе патрэбна сучаснаму ўраду.

У Ірляндыі хутка адбудуцца выбары да парлямэнту. У зьвязку з арыштам дэ-Валеры зацікаўленасьць выбарамі шмат павялічылася, тым больш, што і дэ-Валера быў выстаўлены кандыдатам ад партыі рэспубліканцаў.

### Ліга Нацыяў.

Ліга Нацыяў зьбярэцца на паседжаньне 3-га верасьня. Кандыдатамі ў старшыні называюць чэскага міністра заграгічных спраў д-ра Бэнэша і старшыню швайцарскай саюзнай рады Мота.

# З газэт.

Польская прэса ў апошнія часы моцна цікавіцца палажэньнем у Саюзе Соцыялістычных Радавых Рэспублік, а асабліва нацыянальнаму пытаньню. „Gazeta Warszawska“ бадай у кожным нумары друкуе весткі з Радавых Рэспублік, пад загалоўкам „З эволюцыі бальшавізму“, а „Kurjer Polski“ зьмяшчае перадавіцу аб Конституцыі Саюзу Соцыялістычных Радавых Рэспублік, у якой між іншым піша:

„... найцікавейшай праявай зьяўляецца пашырэньне самадзейнасьці саюзных рэспублік у справе нацыянальнай. Ужо самы факт утварэньня побач саюзнай рады нацыянальнай рады на роўных правох... зьяўляецца гарантыяй гэтай справы...“

Ад'значыўшы далей поўную незалежнасьць рэспублік у вобласьці ўнутраных справаў, справядлівасьці, асьветы і г. д., газэта прыходзіць да вываду, што

„... гэта ёсьць відавочная уступка на карысьць разьвіцьця культуры і асьветы нерасейскіх нацыянальнасьцяў, а ў першую чаргу Украіны, Беларусі і закаўкаскіх рэспублікаў... Камуністы зразумелі, што барацьба з нацыянальнымі імкненьнямі для іх неабавязкова; прызналі, што лягчэй правясьці камуністычныя ідэалы ў жыцьцё пры помачы нацыянальнай асьветы і культуры“. Гэтую новую палітычную сыстэму з нашага боку трэба ўважліва сьлядзіць, бо дагэтуль нацыянальныя рухі ў значным разьмеры сталі на перашкодзе разьвіцьця камунізму, цяпер-жа яны імкнуцца да зьмены сваей сыстэмы пропаганды, якую заўсёды вельмі ўмела праводзяць“.

Калі параўнаць палажэньне нацыянальных меншасьцяў у Польшчы з тым, што робіцца ў Радавых Рэспубліках, дык параўнаньне—ніяк ня будзе на карысьць Польшчы. І нятолькі трэба „ўважліва сьлядзіць“ за тым, што робіцца на Усходзе, але даўно пара і польскім палітыкам стаць на той грунт у нацыянальным пытаньні, на які стаў Саюз Радавых Рэспублік.

### Урэшце зглядзілі.

„Robotnik“ так характарызуе адносіны польскага ўраду да нацыянальных меншасьцяў:

„Сучасны ўрад вядзе палітыку нацыянальнага ўціску. Ня робіць яшчэ гэтага шляхам заканадаўчых зьменаў (?), бо баіцца заграніцы, але робіць паціху, шляхам нязьлічаных прасьледаваньняў і рэпрэсыяў, шляхам трактаваньня меншасьцяў, як грамадзян другой клясы. Факты, якія даём у нашай газэце з жыцьця на ўсходніх крэсах, сьведчаць аб зьдзеку пад няпольскім насяленьнем, факт біцьця ў войску, які мы прывялі нядаўна (а гэта ня есьць адзіным фактам)—гаворыць сам за сябе“.

Шчырую праўду піша „Robotnik“, але дзіўным выдаецца, што гэты зьдзек над нацыянальнымі меншасьцямі ён даглядзеў толькі цяпер, калі ўлада мае эндэцкі ўрад, а ня бачыў яго за папярэдніх урадаў, у якіх пэпээсы прымалі самі ўчасьце, альбо моцна іх падтрымлівалі. Нам здаецца, што гэты спагад пэпээсаў ня зусім шчыры, бо можа найбольшы зьдзек над беларусамі—падзел іх бацькаўшчыны—адбыўся ў урадзе, дзе віцэ-старшынёю быў іх лідэр п. Дашынскі.



# Допісы.

## Беларусы у Амэрыцы.

### Лекцыя А. Змагара ў Чыкаго.

У памешканьні школы Брайтон—парку 4-га жніўня была прачытана беларуская лекцыя Ан. Змагара на тэму: „Палажэньне рабочых і сялян на Беларусі“. Лекцыю ладзіў мясцовы Беларускі Народны Камітэт. Уваход быў свабодны для ўсіх.

### Адозва Беларускага Народнага Камітэту.

У газэце „Свободная Россия“, якая выходзіць у Чыкаго, зьмешчана адозва Белару-



трэба чалавеку прышчапіць веру ў цудоўную сілу божага імя; пасьля—калі вырасьце—трэба прымусіць яго да прысягі на гэтае цудоўнае імя; гэткім спосабам чалавек трымаецца, як на прывязі. Страх перад чарадзейскімі сіламі, які выклікаецца прысягай, робіць сваё нават тады, калі пан не глядзіць. А што — як ведама — бог трымае заўсёды старану пана, а не нявольніка, прысяга ёсьць проста неацанімым спосабам змушаць людзей да паслушэнства.

— Прысягаў быць мне паслушным, прысягаў працаваць на мяне, забіваць, каго загадаю, і нічога ня ўтойваць ад мяне; памятай, што Бог глядзіць на цябе і страшэнна помсьціцца, калі не датрымаеш прысягі—кажа тады ўладар і прыказвае так, як вымагаюць ягоныя інтарэсы.

Не прызывай напрасна божага іменьня—гэта знача, ўжывай гэтага сьвятога іменьня толькі тады, калі я—твой пан і эксплёататар—на гэта пазваляю табе. Бо гэтае імя, як і ўсё, ёсьць маей уласнасьцю і пры помачы гэтага іменьня я валадаю табою.

Катэхізм, аб'ясьняючы дзесяць запаведзяў, пагражае пякельнымі карамі за недатрыманьне прысягі — нават за недатрыманьне прымусовых прысягаў, як напр. прысяга вайсковая—і абшырна гавора аб т. зв. багахульствах, а таксама аб лёгкамысным ужываньні божага іменьня.

Багахульства, г. зн. калі аб багох ад'зываюцца без патрэбнай пашаны, выключана з усіх кодэксаў карных цывілізованых дзяржаваў; выключана дзеля таго, што нават буржуазія прымушана была прызнаць, што ня можна заставіць шанаваць усе глупства, якія знаходзяцца ў Біблії, альбо ў рэлігійных цэрэмоніях. Толькі Польшча, старанна выпаўняючая карны кодэкс—спадчыну Крывавага Раманава—захавала таксама артыкул аб багахульстве (арт. 73 і дал. К. К.).

Катэхізм забараняе яшчэ ўжываць божае імя і розных сьвятых, як напр. „дальбог“, якія шмат хто з някультурных людзей кажуць бадай што пасьля кожнага сказу. Пэўна-ж—ужываньне гэткіх словаў і беспатрэбна і неразумна; чалавек, які так гавора, дае доказ недахватку культуры мовы, таксама, як і чалавек, што гаворыць неграматычна, альбо ўжываючы непрызваітыя выразы. Гэтых вадаў людзі пазбываюцца ў школах і прабываючы ў культурным таварыстве. Але-ж ніхто ня будзе цьвярдзіць, што гэта штосьці так важнае, што аж сам бог мусіў выпісаць гэта на каменных таблі-цах.

З усяго вышэйсказанага можам зрабіць вось які вывад:

Калі гэтую запаведзь разумець так, як разумее яе эвангеліе ад Мацея, г. ё. як забарону прысягаць наогул, дык можам на яе згадзіцца, але адначасна трэба зазначыць, што і дзяржава і касьцёл (царква) прымушаюць не выпаўняць яе. Калі-ж гэта забарона багахульства і ўжываньня ў гутарцы божага іменьня, дык трэба прызнаць, што гэтая запаведзь займаецца дзіцячымі драбніцамі.

Словам і гэтая запаведзь, як і папярэдняя, зусім не выражае якога-небудзь важнага маральнага прынцыпу, зусім не выражае чагосьці такога, што трэба лічыць за неабходнае ў грамадзкім жыцьці. Гэта проста перажытак, гістарычны ўспамін з старадаўных часаў, з даўно ад'жыўшых соцыяльных адносінаў, штучна перахоўваемы цяпер праз заможныя клясы, перахоўваемы дзеля таго, каб людзі не ўглядаліся ў запраўдныя падставы сучаснага соцыяльнага ладу.



скага Народнага Камітэту ў Амэрыцы. У адозьве прызываецца ўсіх беларусаў ў Амэрыцы прыбыць на палітычны пікнік, які ладзіцца на карысьць беларускіх палітычных вязьняў у Заходняй Беларусі. Апісаўшы ярка і праўдзіва дрэннае становішча Заходняй Беларусі, Беларускі Амэрыканскі Народны Камітэт прызывае да аб'яднаньня ўсіх беларусаў-амэрыканцаў, падчырківаючы патрэбу арганізованнасьці пры якой хутчэй і лягчэй можна будзе аказаць помач беспатольнай Бацькаўшчыне.

# З УСЯЕ БЕЛАРУСІ.

## ЗАХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ.

### ХРОНІКА.

### Вобыскі сярод беларусаў у Вільні.

Ноччу з 24 на 25 жніуня па усіх беларускіх установах у Вільні паліцыя шукала нейкага Чарвякова і вядомую беларускую дзеячку П. Бадунову. Паліцыя урывалася у прыватныя памешканьні беларускіх дзеячоу, не прад'яуляючы ордэрау, ня тлумачачы прычыны свайго прыходу, павяраючы асабістыя дакумэнты. Пры гэтым была нарушана нятыкальнасьць памешканьняу паслоу Б. Тарашкевіча і С. Рака-Міхайлоускага. Нас цікавіць, якога Чарвякова шукала паліцыя сярод Віленскіх беларусау; можа старшыню Рады Народных Камісарау Радавай Беларусі? Калі гэта так, дык трэба дзівіцца агранічанасьці дасужага даносчыка і наіунасьці улады, якая прыняла на веру гэткую лухту.

**Выезд П. Бадуновай.** Вядомая беларуская дзеячка П. Бадунова, пасьля нядоўгай пабыўкі ў Вільні, атрымаўшы заграніччны пашпарт, выехала за межы Польшчы.

**Беларуская аднаднёўка.** У чацьвер 23-га жніўня вышла беларуская аднаднёўка „Сьцяг народу“.

**Сход дворнікаў.** У сераду 29-га жніўня, а 6 гадз. вечарам адбудзецца агульны сход сяброў саюзу дворнікаў. Парадак дня: 1) Падвышэньне месячнай платы, 2) Арганізацыйныя справы і 3) Бягучыя справы. Сход адбудзецца ў памешканьні Саюзу (Жэлігоўск. 4).

**Як гэта разумець?** У апошнія часы шмат хто з беларусаў адтрымлівае „wezwanie“ ад камісара ўраду, явіцца да рэестрацыйнага рэфэрэнта. Паміж іншымі адтрымаў і Старшыня Беларускага Грамадзянскага Сабраньня Валэйша. Калі гр. Валэйша явіўся да рэфэрэнта, дык той запатрэбаваў у яго дакумэнт аб польскім падданстве. Ня гледзячы на тое, што паказаны быў польскі пашпарт і доказы, што гр. Валэйша і яго бацькі жылі ў Вільні бязвыездна, рэфэрэнт усё такі не супакоіўся і саставіў аб усім гэтым пратакол.

**Суд над М. Якімовічам.** У Горадне на 14-га верасьня назначаны суд над грамадзянінам Якімовічам, сэкрэтаром Горадзенскага Беларускага Пасольскага Клюбу. Гр. Якімовіч абвінавачваецца па 108 стацьці.

**Пракраўся.** Студэнт Віленскага Унівэрсытэту Т. Пізані служыў шпегам у Крымінальнай паліцыі. Заўважым адначасна, што ёсьць студэнты-палякі, якія служаць і ў палітычнай паліцыі ды памагаюць ёй рабіць вобыскі і арышты, як гэта было пры высылцы 33 віленскіх грамадзян за межы Польшчы.

Гэты Т. Пізані прыняў на схоў чужыя рэчы і ўкраў іх. 21-га жніўня Акружны Суд судзіў злодзея і вынес прыгавар, засуджаваючы Т. Пізані на адзін год вастрогу.

## Весткі з вёскі.

### Пружана.

Жывем як той гарох, што расьце пры дарозе, хто ні йдзе, той і скубе. Дый праўда такі, што скубуць, ак ня ведаем, адкуль набрацца. Давай ды годзе! Ну, гэта не навіна, відаць такі лёс нятолькі нас пружанцаў, а ўсіх беларусаў.

Што да навінак, дык назьбіраецца, вось толькі якраз рабочы час, так, што шмат, не напішаш.

Есьць ў Пружанах нядаўна высьвенчаны айцец Стэфан Шамардзін, які дужа ўспадабаў ксяндзоўскую службу апалячваньня крэсаў. Ведама, аддаўся ён гэтай справе не без асабістай карысьці, бо як-жа іначай можа быць, каб гэты „истинный пскович“ стаўся „rdzennym polakiem“? Ну, разумеецца, як падабае такому айцу, праца пачала весьціся на ўсе бакі. Ня трэба шмат нават і прыводзіць фактаў гэткай „рдзэннасьці“ гэта было-б залішне.

Вось адзін з многіх.

У дзень далучэньня „kresów“ да Польшчы, гэтак памятны беларусам, калі для добрых хрысьціян быў Вялікі пост у нашага „мудрага палітыка“ айца Стэфана наступіў, запраўдны Вялікдзень. І вось у прысутнасьці, толькі асабіста запрошаных праз духаўніка „госьцікаў“ (бачыце пружанскага благачыннага і іншых, загадаў сторажу ня ўпусьціць у царкву), айцец Стэфан сказаў урачыстае казаньне, пачаўшы вялікоднім сьціхом: „Сей день его-же сотвори Господь возрадуемся и возвеселимся в онь!“ І радаваўся так, як падабае радавацца „богобоязным“ айцом.

Цяпер-жа, згодна жаданьням сваім асабістым (а часта бываюць жаданьні ягоных „госьцікаў“), засаджвае ў концэнтрацыйны лагер ня ў чым непавіннага, а наадварот дужа паважанага парахвіянамі, дыякана па паходжаньню ўкраінца, Мала таго, пазбавіў яго хаты і зямлі. Дыякан Кірдань змушаны цяпер хадзіць, праз ласку айца Стэфана, штотыдзень на рэгістрацыю і цярпець нэндзу. Як не стараецца парахвіяне пазбавіцца ад гэтага „мудрага палітыка“, нічога не памагае. Яшчэ асабліва моцна непакоіць нашае сялянства, гэта школьнае пытаньне. Вось надышоў новы вучэбны год, а на цэлы наш павет няма ніводнае беларускае школы. Сяляне дзяцей ў польскія школы не пасылаюць, кажуць: „ня варта мазгі марочыць“. Рабілі ўсялякія захады, каб адчыніць родную школу, але нічога не памагае. Мусіць і не паможа? А час праходзіць. Дзеці гадуюцца ў беспрагляднай цемры. Заместа добрага слова настаўніка чуюць грубую лаянку асадніка, якія паадчыняўшы рэстаўрацыі п'юць ды гуляюць.

Лёс навокал нішчыцца. Ад Белавежаскай пушчы—беларускай гордасьці, застаюцца пустынныя ляды. Вёска сьпіць. Адныя толькі легэнды аб новым „Шэрлёк-Хольмсе“—„Мусе“ пашыраны ў нязвычайных прыкрасах. Жудасна робіцца за будучыну, проста ня ймеш веры, што жывем ў 20-м вяку пасярэдзіне Культурнай Эўропы. **Пружанец.**

*Вызваленьне рабочых—ёсьць справа саміх рабочых.*

## З Латвіі.

### Дзяржаўная Беларуская гімназія (мяшаная) у м. Дзьвінску.

Прымае заявы на 1923-24 школьны год аб прыняцьці ў Дзяржаўную Беларускую Гімназію і ў прыгатаваўчыя яе клясы, (якія раўняюцца 5 і 6 клясам аснаўной школы).

Прыймо з другіх школ адбываецца па адпаведных пасьведчаньнях.

Заявы можна загадзя прысылаць па пошце.

Прыезныя вучні могуць жыць ў інтэрнаце пры Гімназіі.

З будучага году намечана пераарганізацыя Беларускай Гімназіі ў Гімназію-Тэхнікум з шырокім увядзеньнем навучаньня рамёслам і аснаўным пачаткам сельскага гаспадарства.

## Усячына.

### Колькі яны зарабляюць.

Як мала зарабляюць работнікі ў параўнаньні з вялізарнымі даходамі капіталістаў відаць з надрукаванага ў „Robotniku“ ліста бугальтэра адной фірмы, дзе працавалі 55 работнікаў. Гэтыя работнікі ўсе разам адтрымалі ў чэрвені г. г. 57.431.280 марак польскіх, ў той час, калі чысты даход гэтай фірмы ў тым-жа чэрвені быў 145.000.000 марак! Вось як вызыскуюць хьены працоўную люднасьць.

### Чаму ў нас сьцюдзена і дажджліва.

Халады і дажджы гэтага лета, якія заўважаваюцца па ўсёй Эўропе зацікавалі вучоных. Адны з іх даказваюць, што прычына халадоў ёсьць у тым, што сонечныя плямы прыпалі якраз на Эўропу і дзеля таго сонца выдзяляе менш энэргіі цяпла. Другія вучоныя бачаць прычыну халадоў у пахіленьні зямной восі. Але праўдзівейшымі довадамі трэба лічыць тых вучоных, якія прычыну халадоў тлумачаць паяўленьнем аграмадных лядоў на Атлятычным акіяне, прыплыўшых з паўночнага полюсу. Нязьмерна вялікія гэтыя крыгі ахаладжаваюць цёплыя марскія цечы і вятры.

Згодна пастановы Міністэрства Фінансаў пэнсія ўрадоўцам будзе выплачавацца два разы ў месяц 2 і 16 даты.

**Хто плаціць падаткі.** У першай палавіне 1923 году беспасрэдныя падаткі, якія прыпадаюць больш усяго на буржуазію, далі 156 мільярдаў даходу, а падаткі пасрэдныя, якія прыпадаюць больш усяго на незаможных далі ў $5^1/_2$ разоў болей даходу, а іменна 850 мільярдаў. Дык вось і выходзіць, што большасьць падаткаў плацяць незаможныя, працоўныя.





Рэдактар-Выдавец **Я. Лагіновіч**. Друкарня **Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.